

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года**

**№ 15 (1114) 10 КРАСАВІКА 2013 г.**


## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося некаторае сезоннае павышэнне колькасці падпісчыкаў, але заслуга ў гэтым перш за ўсё г. Менска, Менскай, Гарадзенскай і Магілёўскай абласцей. Асабліва трэба адзначыць Слуцка-Салігорскі рэгіён, які захаваў свае высокія пазіцыі. Прадаўжае радаваць Кіраўск. Вырасла падпіска ў Валожынскім, Дзяржынскім і ў некаторых іншых раёнах. Зусім нечакана рэзка ўпала падпіска ў Гомельскай вобласці

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 19 | 17 |
| Бяроза р.в. | 9 | 9 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 15 | 14 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | 2 | 2 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 9 | 9 |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | 2 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | - | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 10 | 11 |
| Пружаны р.в. | 10 | 9 |
| Столін р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго:** | **87** | **87** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 26 | 27 |
| Віцебск РВПС | 3 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 6 |
| Гарадок р.в. | 4 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 1 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 2 | 1 |
| Міёры р.в. | 2 | 3 |
| Новаполацк гор. | 13 | 12 |
| Орша гор. | 1 | 1 |
| Полацк гор. | 7 | 7 |
| Паставы р.в. | 14 | 15 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 5 |
| Шуміліна р.в. | - | 1 |
| **Усяго:** | **100** | **100** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 2 | 3 |
| Барысаў гор. | 6 | 6 |
| Вілейка гор. | 1 | 3 |
| Валожын гор. | 7 | 10 |
| Дзяржынск р.в. | 5 | 8 |
| Жодзіна гор. | 4 | 4 |
| Клецк р.в. | 1 | 1 |
| Крупкі р.в. | 5 | 7 |
| Капыль р.в. | - | 1 |
| Лагойск | 4 | 5 |
| Любань р.в. | 1 | - |
| Менск гор. | 296 | 325 |
| Менск РВПС | 9 | 10 |
| Маладзечна гор. | 13 | 13 |
| Мядзель р.в. | 3 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 5 | 4 |
| Нясвіж р.в. | - | 1 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 1 |
| Слуцк гор. | 21 | 19 |
| Салігорск гор. | 75 | 73 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 2 | 2 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 3 |
| **Усяго:** | **467** | **503** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | - |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 36 | 36 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 4 | 2 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 12 | 7 |
| Жлобін гор. | 2 | 2 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 4 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | - | - |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | 3 | 3 |
| Рагачоў гор. | 2 | 2 |
| Светлагорск гор. | 3 | 2 |
| Хойнікі р.в. | - | 1 |
| Чачэрск р.в. | 2 | - |
| **Усяго:** | **80** | **66** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 5 | 5 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 10 |
| Воранава р.в. | 6 | 5 |
| Гародня гор. | 38 | 41 |
| Гародня РВПС | 19 | 18 |
| Дзятлава р.в. | 15 | 16 |
| Зэльва р.в. | 3 | 3 |
| Іўе р.в. | 2 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 5 | 5 |
| Масты р.в. | 5 | 6 |
| Навагрудак гор. | 5 | 5 |
| Астравец р.в. | 5 | 6 |
| Ашмяны р.в. | 6 | 7 |
| Смаргонь гор. | 7 | 7 |
| Слонім гор. | 9 | 8 |
| Свіслач р.в. | 5 | 5 |
| Шчучын р.в. | 4 | 4 |
| Ліда | 12 | 13 |
| **Усяго:** | **161** | **166** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 4 | 4 |
| Бялынічы р.в. | 1 | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | 1 |
| Горкі гор. | 2 | 3 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | 20 | 20 |
| Клічаў р.в. | - | 1 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 33 | 38 |
| Магілёў РВПС | 1 | 1 |
| Асіповічы гор. | 8 | 10 |
| Слаўгарад р.в. | 3 | 2 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго** | **83** | **90** |
| **Усяго на краіне:** | **978** | **1012** |


ISSN 2073-7033





## У Смаленску будзе беларускае зямляцтва

У Смаленску адбыўся сход з нагоды адкрыцця рэгіянальнага прадстаўніцтва Таварыства беларускай мовы.

Таксама прынятае рашэнне стварыць у Смаленску філію беларускага зямляцтва. Смаленскае прадстаўніцтва будзе насіць імя Францішка Скарыны, у ім будуць вывучацца беларуская мова і культура, яно будзе дапамагаць беларусам Смаленшчыны знайсці вучобу, працу і месца жыхарства.

Паводле перапісу насельніцтва ў 2010 годзе, беларусамі сябе назвалі 12 тысяч 12 чалавек, што пастаянна жывуць у Смаленску і маюць пашпарт грамадзяніна Расеі. Цікавая статыстыка, што датычыцца адукацыі ў Смаленску. У горадзе вучыцца 511 студэнтаў з замежжа, прычым 499 - гэта беларусы. Вялікая частка беларускіх студэнтаў у Смаленску - аршанцы.

*Аршанскі рэгіянальны партал.*

## ХВЕДАРУ НЮНЬКУ - 85



Старшыні Таварыства беларускай культуры Літвы, сябру прэзыдыюму Рады БНР Хведару Нюньку споўнілася 85 гадоў.

Хведар Нюнька нарадзіўся 6 красавіка 1928 года ў вёсцы Алешавічы ў гміне Каменка (цяпер Мастоўскі р-н), у сялянскай сям'і. У 1943 годзе сям'я пераехала ў Вільню, у якой спадар Нюнька ў 1948 годзе скончыў расейскую гімназію. Вучыўся на лясным факультэце Літоўскай сельскагаспадарчай акадэміі (скончыў у 1953 годзе). Працаваў па спецыяльнасці да 1959 году. У 1959-1992 гадах- супрацоўнік праектных інстытутаў Вільні, спецыяліст па каштарысах. З 1980-х гадоў вядзе актыўную грамадска-культурную працу па адраджэнні беларускасці ў Літве У апошніх трох абзацах кнігі “Мае ўспаміны” Хведар Нюнька піша:

- Падсумоўваючы свае ўспаміны, асабліва за апошнія 12 гадоў, трэба нагадаць пра асноўны напрамак дзейнасці ТБК Выдадзена 6 кніг, устаноўлена 6 помнікаў і 7 мемарыяльных табліц, наладжваліся шматлікія пікеты і рабіліся заявы пратэсту. Адбылося безліч сустрэч з літоўскімі уладамі на ўсіх узроўнях. Шмат часу займае пошук мінімальных сродкаў для існавання ТБК.

На жаль, праблема адраджэння ці стварэння музеяў Івана Луцкевіча, Якуба Коласа і Пётра Сергіевіча пакуль не зрушылася з месца. Усе нашыя намаганні не прынеслі плёну.

Перада мною і маімі аднадумцамі Лявонам Луцкевічам, Леванідам Каралём, Кастусём Шышэям і другімі стаяла адна мэта - усе свае сілы, веды і магчымасці аддаць справе Свабоды і Незалежнасці нашай Беларусі дзеля памяці тых, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына. Гэтай ідэі верна і самаахвярна служылі да канца жыцця Лявон Луцкевіч і Леванід Кароль. А той, хто застаўся жыць, будзе надалей змагацца, бо верыць, што "Ночка цёмная на свеце вечна не пануе, зерне, кінутае ў ніву, усходзе ды красуе".

## Аршанскія краязнаўцы ўзгадалі ўдзельнікаў паўстання К. Каліноўскага

Нацыянальна-вызвольнае паўстанне Кастуся Каліноўскага адбывалася і на Аршаншчыне. Расейская і савецкая гістарыяграфія залічвала Каліноўскага да барацьбіта за польскія інтарэсы на тэрыторы Беларусі. Але паўстанне шырока разгарнулася на Аршаншчыне. Менавіта пра гэта і гаварылі краязнаўцы і неабыякавыя людзі.

У адным з грамадскіх памяшканняў сабралася каля 20 чалавек, якія вырашылі ўзгадаць пра паўстанне, 150-я гадавіна якога адзначаецца ў гэтым годзе.

Першым перад прысутнымі выступіў былы мэр горада Барань, а сёння старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны на Аршаншчыне Юры Нагорны. Сваю прамову ён пачаў са слоў, якія Кастусь Каліноўскі ў свой час адрасаваў усяму беларускаму народу. Праз колькі фразаў Юры Аляксандравіч перадаў слова краязнаўцу Юрыю Копціку. Юры распавёў пра паўстанне на Аршаншчыне, пра тое як яно было арганізавана, і якія пакаранні яго ўдзельнікі потым атрымалі ў выніку разгрому паўстання. Значную частку свайго выступу Юры пасвяціў пытанню стаўлення розных уладаў да паўстання. Паводле словаў Копціка да 1905 года да паўстання ставіліся аднназначна кепска і таму не было сур'ёзных гістарычных работаў на гэтую тэму. У 1905 да яго пачалі ставіцца нейтральна - па сутнасці спрабавалі забыць, бо яно было антырасійскім. А пасля рэвалюцыі 1917 года тэма паўстання і асоба Каліноўскага стала зноў актуальная. У прыватнасці Юры прывёў зафіксаваны прыклад, калі ксёндз у сёняшнім Сенненскім раёне (у часы паміж рэвалюцыяй 1905 і 1917) пайшоў збіраць сродкі на адну са сваіх ідэяў сярод сялянаў, яму ў адказ казалі: "А што, новае паўстанне рыхтуецца, бо мінулы раз ксёндз іншы хадзіў на паўстанне грошы збіраць?"



Наступным па чарзе выступіў Ігар Казмерчак, які распавёў пра аднаго з камандзіраў паўстання на Аршаншчыне Ігната Будзіловіча. Калі Каліноўскі быў павешаны ў 25 год, то Ігнат Будзіловіч быў расстраляны ў 22 гады ў Аршанскай турме - на той час Езуіцкім калегіюме, сёння гарадской галярэі. Косткі яго да гэтае пары знаходзяцца на тэрыторыі таго былога комплексу.

Пасля краязнаўчых выступаў адбыўся маленькі канцэрт у тры песні Андрэя Мельнікава. Андрэй праспяваў песні датычныя паўстанцаў. У асноўным ён спяваў песні, якія былі перакладзеныя ў свой час з іншых моваў Рэчы Паспалітай, якую і хацелі аднавіць паўстанцы. Адна з песень - “Песня літоўскага легіёна” Юліюша Славацкага ў перакладзе на беларускую мову Станіслава Судніка.

*Наш кар.*

# Ад плачу Яраслаўны да ўсенароднага абмеркавання

*Сёння мы друкуем падрыхтаваны Леанідам Лычом для газеты "ЛіМ" артыкул "Ад плачу Яраслаўны да ўсенароднага абмеркавання", якому па розных прычынах не знайшлося месца на яе старонках.*

На старонках друку, у электронных сродках масавай інфармацыі дый проста ў размовах паміж людзьмі даволі часта даводзіцца сустракацца з меркаваннем, што ў аснове сучаснага незайздроснага, бесперспектыўнага стану беларускай мовы ляжыць непадуладная волі чалавека аб'ектыўная, гістарычная заканамернасць. Нешта падобнае да такіх меркаванняў знаходзім і ў артыкуле Віктара Кунцэвіча "Дзяржаўных дзве, а родная - адна" ["Літаратура і мастацтва", 24 жніўня 2012 г., с. 16], які падштурхнуў мяне паразважаць наконт гэтай архіскладанай, надзвычай актуальнай праблемы.

Калі сучаснае бядотнае становішча беларускай мовы тлумачыць аб'ектыўнай заканамернасцю, нам тады нічога не трэба рабіць дзеля яго выпраўлення, шукаць нейкіх віноўнікаў. Так, маўляў, гістарычна склалася - і баста! Свядома ж супраціўляцца гэтаму "аб'ектыўнаму" працэсу дый яшчэ ў апоры на дзяржаву не варта, бо можна толькі нашкодзіць беларускаму народу. Няхай сабе жыве паводле занесеных з усходу у яго край культурна-моўных стандартаў. Дык няўжо і сапраўды ў глыбокім заняпадзе беларускай мовы і яе непазбежны вынік і беларускай культуры трэба бачыць толькі нейкую боскую наканаванасць, гістарычную заканамернасць, што ў гэтым няма аніякай віны тых, хто такі працяглы час кіраваў, як толькі хацеў распаражаўся лёсам нашай Бацькаўшчыны? На мой погляд віна ёсць дый яшчэ якая вялікая! Нават лагічна цягне на суровае пакаранне.

Зусім не маю намеру даць глыбокі аналіз культурна-моўнай палітыцы свецкіх і духоўных уладаў Расійскай імперыі на далучаных у канцы XVIII стагоддзя беларускіх землях, бо на сёння гэта ўжо грунтоўна асветлена айчыннымі гісторыкамі, публіцыстамі. Чытачоў толькі папрашу ўсур'ёз задумацца ці хоць трохі паспрыялі гэтыя ўлады беларускай мове? Каб аблегчыць адказ на пастаўленае пытанне , заўважу, што аж да кастрычніка 1917 года яны ў нашым краі не адкрылі аніводнай беларускай школы, не выдалі за свой кошт на беларускай мове аніводнай газеты ці кнігі, а Руская праваслаўная царква не правяла ў нас на роднай мове сваіх прыхаджан аніводнага набажэнства. І як пасля усяго гэтага мы называем такое злачынства ў дачыненні да беларускай мовы гістарычнай заканамернасцю, а не свядомым, гвалтоўным выкараненнем яе (мовы) з грамадскага жыцця з мэтай асіміляцыі беларусаў і зліцця іх з рускім народам? Думаецца, пытанне з ліку самых элементарных і ні для кога не стварае цяжкасці правільна адказаць на яго. Увесь час знаходжання беларусаў пад уладай царскай Расіі (а доўжылася ж такое амаль паўтара стагоддзя!) іх адвучвалі быць самімі сабою. І нямала чаго з гэтага атрымалася, асабліва ў прылеглых да этнічнай тэрыторыі Расіі беларускіх губернях з іх пераважна праваслаўным насельніцтвам. Духавенства гэтай канфесіі ўсяляк пераконвала сваіх прыхаджан, што яны рускія, што ў іх не можа быць аніякай іншай мовы, як толькі рускай. І многія пагаджаліся.

З распадам СССР у нас вельмі шмат крытыкі выказана - дзе справядліва, а дзе і несправядліва - на адрас яго нацыянальнай палітыкі. Павінен сказаць, што ў першыя дзесяць-пятнаццаць гадоў існавання савецкай улады саюзныя рэспублікі СССР і разам з імі БССР перажылі сапраўдны бум у сваім нацыянальна-культурным развіцці. Зараз нават добра дасведчаным у айчыннай гісторыі людзям з цяжкасцю верыцца, што ў перыяд міжваеннай беларусізацыі (1924 - пачатак 1930-х гадоў) у дзейнасці партыйна-савецкага апарату ўсіх узроўняў, адміністрацыйна-гаспадарчых службаў, у навуцы выкарыстоўвалася пераважна беларуская мова. За год-два ёю паспявалі авалодаць, пачыналі выкарыстоўваць на службе нават некаторыя прысланыя Маскоўскім Крамлём у БССР першыя сакратары ЦК КП(б)Б небеларускай нацыянальнасці. У нашыя дні такога і сярод чынавенства беларускага паходжання не заўважаецца.

А як добра ўпісалася беларуская мова ў сістэму адукацыі, культуру! Для вышэйшых навучальных установаў узорным прыкладам у гэтым служыў іх флагман - Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Артысты Беларускага тэатра оперы і балета не зведвалі аніякіх цяжкасцяў, нязручнасцяў ставіць на беларускай мове нават заходнееўрапейскую класіку! Прычым глядзельная зала запаўнялася да адказу. Каб майстрам опернага мастацтва сёння прапанавалі так пасябраваць з беларускай мовай, дык можа палова з іх пазвальнялася б з працы.

Такі лёгка вытлумачальны нацыянальны ажыятаж усё ж не выклікаў радасці ў бальшавіцкай партыі, якая пад той час ўжо стала галоўнай палітычнай сілай ў СССР. Гэта па яе віне ў другой палове 1930-х гадоў на ўсю моц зашугала полымя масавых фізічных рэпрэсій. У ім, без перабольшвання, загінула амаль уся краса беларускай навуковай, творчай педагагічнай інтэлігенцыі - шчырых, актыўных носьбітаў беларускай мовы. Ад тае пары яна ўжо ніколі больш не карысталася такой вялізнай папулярнасцю ў гэтых элітарных колах інтэлігенцыі. Мілае многім нашым людзям і тады і зараз слова "беларусізацыя" адным махам выключылі з афіцыйнага ўжытку больш як на паўстагоддзе. Знялі з яго табу



толькі падчас Гарбачоўскай перабудовы.

Зусім не ў кантэксце гістарычнай заканамернасці, а мэтанакіравана, прычым найчасцей па ўказцы агульнасаюзных інстытуцый, ішло абмежаванне выкарыстання беларускай мовы ў грамадскім жыцці БССР у пасляваенныя гады. Многія апраўдвалі гэта тым, што ў яе дзяржаўным, партыйным кіраўніцтве, адміністрацыйна-гаспадарчым апараце знаходзілася шмат накіраваных Масквою людзей небеларускай нацыянальнасці, што і сапраўды цалкам адпавядала рэчаіснасці. У якасці доказу згадаю першага сакратара ЦК Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі (гэта самая вялікая пасада ў палітычным кіраўніцтве) Панцеляймона Панамарэнку (родам з Кубані), гразу рэпрэсіўных органаў Лаўрэнція Цанаву (родам з Кутаіскай губерні). Звярнуцца да яго па-беларуску не адважваўся ніхто нават з беларускіх пісьменнікаў, уключаючы і іх шаноўнага патрыярха паэта Якуба Коласа. З палітычных лідэраў першых пасляваенных гадоў шчырым носьбітам беларускай мовы быў толькі старшыня Вярхоўнага Савета БССР, затым старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Васіль Казлоў (ураджэнец Рагачоўскага павета). Беларуская мова панавала нават у яго сям'і, чым можна патлумачыць, што ў ёй вырасла добра вядомая ў беларускай філалогіі даследчыца Вольга Казлова.

Адсутнасць перадусім у практычнай дзейнасці савецкіх і партыйных органаў беларускай мовы рабіла немэтазгодным выкарыстанне яе ў педагагічным працэсе сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў. Навязаны Масквою рэжым жыцця для Беларусі вымушаў іх падрыхтоўваць маладых спецыялістаў на той мове, якая абслугоўвала дзяржаўна-партыйны апарат, адміністрацыйна-гаспадарчыя службы і іншыя сферы грамадскай дзейнасці чалавека, г. зн. на рускай. Сярод прафесарска-выкладчыцкага складу было нямала асобаў, якія выдатна разумелі, што падрыхтоўкай рускамоўных спецыялістаў мы пазбаўляем беларускі народ такога ва ўсе часы патрэбнага пласта людзей, як нацыянальная інтэлігенцыя, якую справядліва называюць соллю нацыі. Тагачасныя выпускнікі ССНУ і ВНУ БССР, за рэдкім выключэннем, не з'яўляліся носьбітамі нацыянальнай мовы яе тытульнага насельніцтва, а таму не маглі быць і актыўнымі носьбітамі беларускай культуры, аддавалі перавагу рускай, што толькі ліло ваду на кола русіфікацыі. Не жадаючы бачыць свой беларускі народ яе бязвіннай ахвярай, хтосьці з найбольш смелых выкладчыкаў, прафесароў стараўся дыпламатычна, у самай асцярожнай форме давесці дзяржаўна-партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі, якія цяжкія наступствы выкліча для яе поўная адсутнасць беларускамоўнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. Іх голас застаўся марным ляментам у пустыні. Болей за тое, некаторыя шчырыя руплііўцы беларускага слова ў навучальна-выхаваўчым працэсе ССНУ і ВНУ панеслі несправядлівую суровую меру пакарання.

Маючы ўсебаковую падтрымку з боку палітычнага кіраўніцтва БССР, рускамоўная сярэдняя спецыяльная і вышэйшая школа спакойна пачувала сябе гаспадыняй на нашай зямлі аж да канца існавання СССР. Палітыкі, ідэолагі, што не жадалі бачыць беларускі народ народам самабытным, адметным ад іншых, усяляк стараліся ўвесці рускую мову і ў яго культуру - у гэтую адну з самых важных этнастваральных сфер. У газеце "Новы Час" ад 31 жніўня 2012 года на мае вочы трапіў фотаздымак 1957 года з надпісам: "Б. - Кракотской библиотеке им. Я. Купала - 30 лет". Знаходзілася яна на тэрыторыі Слонімскага раёна, г. зн. там, дзе ў той час не так здэнацыяналізавана было культурнае жыццё. І тут на табе: назву такой культурнай установы дый яшчэ імя народнага паэта Янкі Купалы ў дзень святкавання яе 30-гадовага юбілею не маглі інакш напісаць, як толькі па-руску. Не выключана, што такое рабілі па ўказцы кагосьці з раённых кіраўнікоў выразнай рускай арыентацыі ці самога загадчыка бібліятэкі, прысланага з-за межаў Беларусі. Такое тады вельмі часта практыкавалася. І яшчэ такая на першы погляд мо і другарадная дэталь: на гэтым здымку назва бібліятэкі пачынаецца са слова "Б. - Кракотская…", г. зн. "Большая…" Пераклад з беларускай назвы "Вялікая…", якую трэба было б захаваць і ў рускім напісанні. Думаецца, ад усяго гэтага вельмі няўтульна пачувалася запрошаным на тое свята жонцы Янкі Купалы Уладзіславе Луцэвіч і паэту Максіму Лужаніну.

На працягу ўсіх сарака гадоў пасляваеннага перыяду ў дзейнасці партыйных і савецкіх органаў БССР не адшукаць аніводнага факціка, які сведчыў бы пра іх павагу да беларускай мовы, а разам з ёю і да нацыянальнай культуры. У ніводнай з саюзных рэспублік так паслядоўна не праводзілася палітыка КПСС па збліжэнні і зліцці культур і моваў савецкіх нацый і народнасцяў, як у БССР, што вельмі паспрыяла распасюджванню на яе тэрыторыі рускай культуры і мовы. Заўважу, што ў гэтым даволі актыўны ўдзел бралі і самі беларускага паходжання прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Гарбачоўская перабудова і выкліканае ёю беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне прыпыніла далейшае ўзмацненне рускага ўплыву на культуру нашай краіны, але не надоўга. З сярэдзіны 1990-гадоў усё вярнулася на сваё колішняе месца. Сёння сацыяльная роля беларускай мовы ніколькі не вышэй. чым напярэдадні Гарбачоўскай перабудовы, хаця наша краіна стала незалежнай, суверэннай.

Дзяржаўны чыноўніцкі апарат Рэспублікі Беларусь, яго ідэолагі не скупіліся на абяцанні, што ў выніку пераходу пасля майскага (1995 г.) рэферэндуму да афіцыйнага двухмоўя знікнуць усялякія праблемы з выкарыстаннем беларускай мовы раўналежна з рускай ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці чалавека. На вялікі жаль, на практыцы такога не атрымалася. А яно і не павінна было атрымацца. Сусветны досвед пераканаўча сведчыць, што ў адначассе на тэрыторыі краіны з адным тытульным народам немагчыма суіснаванне дзвюх моў незалежна ад таго, з'яўляюцца яны дзяржаўнымі ці не. У выніку канкурэнцыі паміж сабой - я сказаў бы назвычай жорсткай, бескампраміснай - у абавязковым парадку перамагае адна з іх. Вось чаму ва ўсіх еўрапейскіх краінах з адной тытульнай нацыяй выкарыстоўваецца толькі адна дзяржаўная мова - мова гэтай нацыі. Шматкроць пацверджана праўдзівасць сфармуляванага вядомым тэарэтыкам нацыянальнага пытання Карлам Каўцкім (1854 - 1938) меркавання на двухмоўе. Апошняе разглядалася ім не больш, як "толькі пераходнай стадыяй. Там, дзе кожны валодае дзвюмя мовамі, заўжды ўрэшце агульная перавага па тых ці іншых прычынах будзе аддадзена адной з іх - ці таму, што гэтая мова больш багатага і моцнага народа, ці таму, што яна адкрывае доступ да больш дасканалай культуры, якая зусім адсутнічае ў другога народа". Прэтэндаваць на такую перавагу ў рускай мовы было куды больш падстаў, чым у беларускай. Апошняя ж з першых пасляваенных гадоў на нявызначаны час была свядома выключана кіраўніцтвам БССР з яе палітычнага і эканамічнага жыцця, значна ўступала рускай у сферы адукацыі, культуры, навукі, таму існавала ў вялікім адрыве ад сваіх прыродных носьбітаў. У К. Каўцкага было і такое надзвычай карыснае для беларусаў - прычым не толькі тагачасных - меркаванне: нацыя знікае, калі "яна перастае гаварыць на сваёй мове, паколькі лічыць другую мову для сябе мэтазгоднай" . Пад такую нацыю ўжо ў сярэдзіне мінулага стагоддзя цалкам дапасоўваліся беларусы і што самае страшнае - і іх дзяржаўныя, партыйныя дзеячы, найбольш элітарная частка грамадства. Прасвятленне іх галоў, моцна задураных палітыкай КПСС па збліжэнні і зліцці савецкіх нацый і народнасцяў, пачалося ў гады Гарбачоўскай перабудовы, нацыянальна-культурнага Адраджэння канца 1980 - пачатку 1990 гг., але было вельмі кароткачасовым, таму зрабіць штосьці надзвычай важнае для павышэння сацыяльнай ролі беларускай мовы не ўдалося.

Насуперак трывала ўсталяванай, бездакорнай моўнай практыцы на еўрапейскім кантыненце чыноўніцкі апарат супольна са сваімі ідэалагічнымі службамі, бюджэтнай часткай інтэлігенцыі ўзялі на сябе залішнюю смеласць шляхам правядзення ў маі 1995 года рэферэндуму паводле жаданага імі сцэнарыю, увесці ў Рэспубліцы Беларусь з яе толькі адной тытульнай нацыяй дзяржаўнае беларуска-рускае двухмоўе. Недастаткова дасведчанае ў гэтым архіскладаным, далікатным пытанні насельніцтва падтрымала ідэолагаў і непасрэдных арганізатараў рэферэндуму. А вось яны нават і пальцам не кранулі, каб усталяваць у краіне рэальнае, фактычнае афіцыйнае двухмоўе. Далей за прарэкламаванне юрыдычнай (на паперы!) роўнасці дзвюх дзяржаўных моў палітычнае кіраўніцтва краіны не пайшло, затое яно тут жа ўзяло пад свой надзейны пратэктарат рускую мову, максімальна нагрузіўшы яе функцыямі рабочай ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці. Беларускую ж мову, так аслабленую за савецкім часам, сюды свядома не пусцілі. Таму проста не карэктна гаварыць і пісаць пра нейкае існаванне ў нас афіцыйнага руска-беларускага двухмоўя, як гэта сцвярджае і Віктар Кунцэвіч: "…большая частка насельніцтва нашай краіны карыстаецца ў побыце рускай мовай (зразумела, з прычыны таго, што яна з'яўляецца ў нас фактычна адной - адзінай дзяржаўнай мовай. - *Л. Л.*), таму мне асабіста бачыцца дарэчным існаванне дзвюх дзяржаўных моў". Ну і ну! Хваліць дзяржаўнае двухмоўе за тое, што яно паспрыяла ледзь не поўнаму выцясненню беларускай мовы з ужытку паміж людзьмі і амаль адзіным сродкам іх зносін зрабіла рускую, ёсць нішто іншае, як яскравая праява беларускага нацыянальнага нігілізму. Хваліць дзяржаўнае двухмоўе ў нашай краіне можна было б толькі ў тым выпадку, калі б яно прывяло да поўнага панавання беларускай мовы ў побыце людзей, што рэальна толькі ў варунках бесканкурэнтнага абслугоўвання ёю ўсіх сфер грамадскага жыцця. Пра гэта марыць сёння мо толькі супераптымісты.



Я ж цвёрда прытрымліваюся такой пазіцыі: пасля майскага рэферэндуму ў нас з дапамогай чыноўніцкага апарату ўсталявалася і спрэс функцыянуе ў статусе дзяржаўнай толькі руская мова. Беларускую ж мову толькі з вялікай нацяжкай, чыста сімвалічна, па прывычцы можна назваць роднай, паколькі яна, будучы мэтанакіравана выштурхнутай з грамадскага ўжытку і таму стаўшы бесперспектыўнай, амаль цалкам страціла аўтарытэт сярод сваіх прыродных носьбітаў, практычна зусім не гучыць у публічных месцах. Ну якая ж яна тады нам родная, калі мы адцураліся ад яе, няхай сабе і па волі чыноўнікаў. Што ж датычыць рускай мовы, яна ніколі не была, не з'яўляецца і не будзе натуральна роднай для беларусаў. Для іх руская мова - гэта мова прыўладная, прэзідэнцкая, вертыкальная, рэферэмдумная ці яшчэ якая-небудзь, толькі не родная, бо яе законныя носьбіты ў суседняй нам краіне - Расійскай Федэрацыі.

Як ніколі архіскладанае на сёння становішча з беларускай мовай не дае аніякай падставы апускаць рукі, аддаваць гэтую лёсавызначальную для нашай любай Бацькаўшчыны справу на самацёк. Давайце нарэшце спынімся хаваць галовы ў пясок ці пад венік! За час пасля майскага рэферэндуму мы ж ні на дзяржаўным, ні на агульнанацыянальным узроўні ні разу ўсур'ёз не пагаварылі пра відавочны нават самым шараговым людзям поўны заняпад беларускай мовы! Што ў нас зусім перавялася эліта, адсутнічаюць далёкаабачлівыя, са здаровай нацыянальнай самасвядомасцю палітыкі, каб не знайсці надзейныя шляхі па выратаванні роднай мовы ад пагібелі?! Ва ўсіх жа краінах Еўропы знайшлі такі надзейны сродак, і кожны іх тытульны народ зрабіў сваю родную мову юрыдычна і фактычна дзяржаўнай. Ці не павінна нас не насцярожваць, не хваляваць, што ва ўсёй Еўропе толькі мы, беларусы, жывём не паводле трывала ўсталяваных у ёй моўных стандартаў? Трэба поўнасцю выкінуць шкодную думку з галавы, што ўсе еўрапейскія краіны памыліліся ў развязванні моўнай праблемы, а толькі Беларусь выбрала дзеля гэтага з усіх пунктаў гледжання "правільны" варыянт: рускамоўную сістэму адукацыі. Думаю, што ва ўсім свеце няма такой дзяржавы, дзе б выпускнікі сярэднеспецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў не валодалі б роднай мовай. У Беларусі - гэта ўзаконеная норма, трывала ўсталяваная традыцыя, якую не пахіснулі нават крутыя перамены ў нацыянальна-дзяржаўным развіцці краіны. Гэта ж трэба, яна ўжо больш за дваццаць гадоў з'яўляецца незалежнай, суверэннай, а сярод яе высокіх палітыкаў, знаных тэарэтыкаў не знайсці аніводнага разумнага, смелага чалавека, які выступіў бы за карэнную ломку моўнага рэжыму ў сістэме адукацыі і асабліва ў яе сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе, якая і ў нашыя дні куе кадры, зусім няздольныя нармальна жыць, працаваць паводле беларускіх культурна-моўных стандартаў. І які найвялікшы, унікальны парадокс: практычна стопрацэнтная адсутнасць ў незалежнай краіне беларускамоўнай інтэлігенцыі, ад якой так многа залежыць у лёсе беларускай нацыі, нікога не хвалюе, у тым ліку і самі ўлады. Наадварот, усё гэта яны ўсур'ёз разглядаюць як неаспрэчнае дасягненне ў культурна-моўным развіцці беларускай нацыі, ніяк не жадаюць пагадзіцца з тым, што поўнае выключэнне беларускай мовы з навучальна-выхаваўчага працэсу ССНУ і ВНУ заканамерна зрабіла яе абсалютна непатрэбнай для агульнаадукацыйнай школы, а разам з апошняй і для дашкольных устаноў. У такіх неспрыяльных варунках беларускай мове наканавана канчаткова згубіць сваю прэстыжнасць у сем'ях, бо навошта вучыць дзяцей таму, што зусім не патрэбна ў дашкольных і школьных установах, тэхнікумах і інстытутах, практычным жыцці. Замест таго, каб у такой яўна пройгрышнай для беларускай мовы сітуацыі біць у званы, рабіць якія-небудзь практычныя захады выратавальнага характару, на вялікі здзіў амаль усе палітыкі супольна з аддана́й ім інтэлектуальнай элітай бачаць у гэтым гістарычную заканамернасць, непазбежнае наканаванне шчаслівага лёсу для беларускага народу. Я ж стаю на зусім процілеглых пазіцыях і ніколі не пагаджуся з ужо вышэй прыведзенымі словамі Кунцэвіча: "Так ужо гістарычна склалася, што большая частка насельніцтва нашай краіны карыстаецца ў побыце рускай мовай…" Без усялякай меры, на вялікую бяду, карыстаемся мы ёю паводле зусім іншых прычын, пра што дастаткова было сказана мною яшчэ да гэтага.

Палітыкам усіх рангаў, ідэолагам і інтэлігенцыі, што знаходзяцца на поўным фінансавым утрыманні беларускага народа, павінна быць сорамна, што яны нічога не зрабілі і не збіраюцца рабіць па забеспячэнні яго роднай мове сапраўднага рэальнага статусу дзяржаўнай, што ім надзелена выключна толькі мова суседняй краіны - руская. Спадзяваецца, што ў такой на ўсе сто працэнтаў стратнай для беларусаў сітуацыі яны выжывуць, застануцца самабытным народам, здольным сваёй нацыянальнай культурай узбагіцяць цывілізаваны свет, могуць толькі круглыя невукі. Сярод мною вышэй пералічаных катэгорый людзей такіх няма. Значыцца, умяшацца ў моўную сферу краіны ім перашкаджаюць нейкія іншыя прычыны, пра што не ведае беларускі народ.

Многія ўжо не адзін дзесятак гадоў аплакваюць так усім відавочную пагібель беларускай мовы, ад чаго ні на ёту не паляпшаецца яе становішча. Дык мо ўжо прабіў час перайсці ад плачу Яраслаўны да падключэння розуму ўсяго народа дзеля пошукаў надзейнага шляху выратавання роднага беларускага слова ад сконү? Сорамна ж будзе перад усімі тытульнымі нацыямі краін Еўропы, што яны маюць родныя мовы, а мы з ласкі чыноўніцкага апарату, высокага рангу палітыкаў Рэспублікі Беларусь сцвярджаемся ў чужой і дзеля ліпавага апраўдання перад самімі сабой спачатку называлі яе другой роднай мовай, а зараз проста роднай, бо для абсалютнай бальшыні жыхароў краіны, не выключаючы палітыкаў, інтэлектуальнай эліты, беларуская мова ўжо даўно стала мёртваю. Але выратаваць яе мы, найперш задзейнічаныя ва ўладныя структуры асобы, абавязаны. Хто з іх не здольны, не жадае ўзяць удзел у такім выратаванні, таму лепш сыйсці з дзяржаўнай пасады. Час вымагае да тэрміновых, рашучых, смелых дзеянняў!

Я не бачу больш адказнай, больш важнай для кіраўніцтва краіны, усёй нацыі справы, як вынясенне на агульнанароднае абмеркаванне моўнага пытання. Мы павінны любой цаной выратаваць занядбаную родную мову нашай суверэннай дзяржавы ад так рэальнай смерці. Гэта наш святы абавязак не толькі перад самімі сабой, але і перад усёй сусветнай цывілізацыяй. Калі вернем да жыцця беларускую мову, будзе жыць як самабытная, суверэнная дзяржава Рэспубліка Беларусь, будзем жыць і мы самі. Працаваць, стараціца ёсць дзеля чаго. Ход усенароднага абмеркавання моўнага пытання ў Рэспубліцы Беларусь павінен, на маю думку, весціся на старонках газеты "Літаратура і мастацтва" як перыядычнага органа творчай інтэлігенцыі. Дарэчы, гэтай газеце ўжо двойчы даводзілася ўзнімаць у такім шырокім фармаце дадзеную праблему: у канцы 1950-х гадоў, калі бацькам далі права выбіраць мову навучання сваіх дзяцей у школах, і ёю ва ўсіх гарадах, гарадскіх пасёлках станавілася руская, дзякуючы яе шырокаму, неабмежаванаму выкарыстанню ў грамадскім жыцці. Дыскусія пачалася з ініцыятывы яшчэ зусім маладога беларускага пісьменніка Барыса Сачанкі. Чарговае другое франтальнае абмеркаванне моўнага пытання прыпала на гады Гарбачоўскай перабудовы, якая ўскалыхнула і шырокія колы беларускага грамадства. Выказаныя тады на старонках газеты "Літаратура і мастацтва" меркаванні датычна выратавання беларускай мовы не страцілі свайго значэння і ў нашыя дні. Аўтар гэтых радкоў таксама браў актыўны ўдзел у тагачаснай дыскусіі, прычым першы яго даволі вялікі паводле памеру артыкул меў такую нязвыклую для бальшыні людзей назву: "Беларускай мове - статус дзяржаўнай" (28 красавіка 1989 года). У той час дадзеную праблему так прынцыпова не ставіў аніводзін з органаў перыядычнага друку, бо бальшавіцкія ідэолагі ўсяляк падтрымлівалі, распаўсюджвалі ў народзе погляд, што такая функцыя ў БССР павінна быць цалкам замацавана толькі за рускай мовай, што сёння ў нас практычна з'яўляецца непажаданай, небяспечнай сваімі негатыўнымі наступствамі рэальнасцю. Непажаданай таму, што гэта немінуча вядзе да сконү беларускай мовы.

***Леанід Лыч,***
*доктар гістарычных навук, прафесар.*

# А ля нашых ля варот усё ідзе наадварот



Як кажуць, з песні словы не выкінеш. Днямі набыў доўгачаканы "Вялікі беларуска-рускі, руска-беларускі слоўнік", складзены паводле новых "Правілаў арфаграфіі і пунктуацыі". Узяў кнігу ў рукі, і здзіўленню майму не было межаў. Чытаю:

*"Булыко А.И., Булыко Х.П., Полещук Н.В. Большой белорусско-русский, русско-белорусский словарь". Издание подготовлено в соответствии с новыми "Правилами белорусской орфографии и пунктуации". 46000 слов."*

І так усе выходныя дадзеныя - на рускай мове. Зазірнуў у форзац, шукаючы хто ж аўтары і кім выдадзены гэты дапаможнік. Аказалася, што месца выдання горад Мінск, выдавец - Беларуская Акадэмія Навук і яе супрацоўнікі. Мяне гэта яшчэ больш здзівіла. Чаму нават беларускі слоўнік "апранулі" ў "чужую вопратку"? Калі ў нас існуе канстытуцыйнае двухмоўе, якое я лічу бязглуздзіцай, дык і пішыце, калі ласка, у такіх выпадках на дзвюх мовах - беларускай і рускай. Наша ж дзяржава незалежная, суверэнная і называецца Беларусь. А мова, на мой погляд, роўна як дзяржаўны сцяг, герб і гімн - дзяржаўны сімвал.

Чаму я лічу двухмоўе ва ўмовах Беларусі - беларускае і рускае - бязглуздзіцай? Таму што ў ім няма ні патрэбы ні падстаў для яго. Першапачаткова рускія мігранты з'явіліся на тэрыторыі сённяшняй Беларусі дзесьці ў XV-XVI стагоддзях. Гэта былі "ваенные служывыя людзі", "панцырныя баяры" і пасяляліся ўздоўж межаў ВКЛ. Больш шырока руская мігранты пачалі расяляцца ў канцы XVIII стагоддзя пасля III падзелу Рэчы Паспалітай. Колькасць іх значна павялічылася пасля таго, як расійская імператрыца Кацярына II сваім высачайшым Указам ад 25 снежня 1795 года далучыла беларускія землі да Расіі.

І асабліва распаўсюдзіліся пасля Вялікай Айчыннай вайны. Прынамсі, у заходніх абласцях Беларусі.

У спрэчках мае апаненты, апраўдваючы двухмоўе, спасылаюцца на прыклады Швейцарыі і Канады, а таксама іншых краін Еўропы і свету.

На мой погляд, яны блытаюць божы дар з яечняй. Немцы і французы, мовы якіх з'яўляюцца дзяржаўнымі ў Швайцарыі, - карэнна-этнічныя народы швейцарскай дзяржавы. Сёння на нямецкай мове размаўляюць больш за 65% жыхароў краіны, звыш 20% - на французскай, 12% - на італьянскай (рэтрараманскай) мове. Нарэшце, швейцарскай мовы не існуе ў свеце вогуле.

У этнічных немцаў і французаў, што кампактна, пражываюць на швейцарскай тэрыторыі, праз вякі ўсталяваўся свой, уласцівы толькі ім, лад грамадскага жыцця.

У рускіх на Беларусі нічога падобнага не знайсці. Бо руская на Беларусі - мігранты. Жывуць звычайна па гарадах. У сельскай мясцовасці толькі выконваюць службовыя абавязкі (маю на ўвазе перш за ўсё яе заходнія вобласці), як правіла, на адміністрацыйных пасадах. А што беларусы і рускія - адзіны народ, то гэта хутчэй выдумка, калі не шкодная хлусня.

Двухмоўе ў Канадзе мае іншыя карані - гэта не што іншае, як каланіяльная спадчына.

Я - не мовазнавец, але беларус і сваю родную мову люблю і, як магу, усімі даступнымі мне сродкамі, гатоў берагчы і бараніць.

Якое маё станаўленне да доўгачаканай і вельмі патрэбнай працы? Дваякае На жаль, больш адмоўнае, чым станоўчае.

Вось што давялося прачытаць у самым пачатку - у "Прадмове": *"Калі загаловачнае слова ўжыта..."* Якое *"загаловачнае слова"*, адкуль яно тут узялося? Тут відавочны даслоўны пераклад з рускай мовы на беларускую руская: *"Если заглавное слово употреблено...".* А чаму не ўжыць тут іншы выраз? Але ж над ім трэба думаць. А навошта? Добра вядома, што пры даслоўным перакладзе з адной мовы на іншую, здараюцца, такія бяглуздзіцы, што знарок цяжка прыдумаць. Дарэчы, ў самым слоўніку я ніякага "загаловачнага" слова не знайшоў.

Беларуская мова шматпакутная. Была яна "тарашкевіцай", была "наркамаўкай". І кожны раз яе чамусьці дастасоўвалі да якой - небудзь суседняй - польскай ці рускай, і кожны раз яна станавілася менш мілагучнай, губляла сваю мяккасць, меладычнасць гучання, што адрознівалі яе заўсёды ад іншых моў. Як назавём яе зараз?

Чаму ўсё ў нас так адбываецца? На мой, дылетанцкі погляд - таму, што ўсё, што тычыцца мовы, як і шмат чаго іншага, робіцца келейна, у кулуарнай глыбі, без парады з самым носьбітам мовы - народам. Прыняўшы закон аб двухмоўі, забыліся пра яго выкананне, пусцілі ўсё на самацёк. А на што здольны наш чыноўнік, вядома ўсім. Сёння пажынаем тое, што самі пасеялі.

Чаму так упіраюцца і не хочуць карыстацца беларускай мовай рускія, што дзесяцігоддзямі жывуць у Беларусі? На мой погляд, тут дзве прычыны, якія караняцца ў глыбі мінуўшчыны і зліваюцца ў адну. Першая - залішнее ўсхваленне "великого и могучего" і пагарда да іншых моў. Бадай, больш яскрава не скажаш за К. Рылеева ў яго́ным выказванні адносна беларускай мовы: *"Наречие по-польски холопское".*

Другая - шчырая падтрымка рускай мовы беларускім чынавенствам усіх узроўняў, якое, мабыць, забылася, што мы самастойная, незалежная, суверэнная дзяржава. І што беларускі народ варты больш высокай павагі. А зараз маем тое што маем.

Канешне, гэта першае мае павярхоўнае ўражанне. Больш грунтоўна змагу сказаць пасля дасканальнага вывучэння.

Уступаць у спрэчку з навукоўцамі, тым больш з акадэмікамі, якія да таго маюць такую магутную падтрымку, вельмі рызыкоўна - утопяць у віры словаблуддзя.

У канцы хачу спытацца ў рускіх, якія пражываюць на працягу многіх дзесяцігоддзяў у Беларусі і ва Украіне: "Чаму вы так упірыста не хочаце вывучаць мову народа, з якім побач жывіцё, а дамагаецеся так званага "канстытуцыйнага двухмоўя"? Доўга ўпіраліся вашаму напору ўкраінцы ды дарэмна. Вельмі няроўнымі аказаліся "вагавыя катэгорыі". "Вірус двухмоўя" прасачыўся і на зямлю Шаўчэнкі.

Чаму нашы "старэйшыя браты" так старанна стараюцца вынішчыць сваім двухмоўем (гэта ўжо добра відаць на прыкладзе Беларусі) беларускую і ўкраінскую мовы, якія спрадвеку складалі цудоўнае суквецце славянскіх моў?

***Анатоль Кулеш.***

# Памёр стваральнік "Вялікага слоўніка беларускай мовы"

5 красавіка ў веку 63 гадоў пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця беларускі лінгвіст Фёдар Піскуноў - аўтар беспрэцэдэнтнага аб'ёмам лексікаграфічнага даведніка - "Вялікага слоўніка беларускай мовы" (2012).



У арфаграфічна-грама-тычны слоўнік, над укладаннем якога аўтар працаваў больш за 12 гадоў, увайшло блізка 223 тысяч словаў.

У беларускую лінгвістыку Піскуноў, хімік з адукацыі, прыйшоў на пачатку 2000-х. Займаўся даследаваннямі ў галіне кампутарнай лексікаграфіі, прыкладной марфалогіі і ўніфікацыі беларускага правапісу. На чале групы супрацоўнікаў стварыў першую прафесійную праграму праверкі беларускай арфаграфіі "Літара" (pravapis.tut.by). Упершыню ў беларускай лінгвістыцы апісаў поўную марфалагічную класіфікацыю парадыгмаў беларускіх дзеяслова і назоўніка, на аснове якіх стварыў электронны слоўнік "Парадыгма" аб'ёмам звыш 134 тысяч лексем.




Апошнімі месяцамі рыхтаваў выхад вялікага адваротнага слоўніка беларускай мовы. У перспектыве планавалася і дапоўненае перавыданьне "Вялікага слоўніка беларускай мовы".

Мовазнаўца, першая намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім лічыць, што постаць Фёдара Піскунова многа значыць для беларускага мовазнаўства:

- Тое, што яму ўдалося зрабіць, гэта, канешне, вельмі і вельмі многа значыць. Ён здолеў акумуляваць і паказаць усе набыткі беларускай мовы, фактычны яе сённяшні стан. І здолеў зрабіць гэта ўсё на высокім узроўні. Ягоная постаць многа значыць.

Ён не "чысты" мовазнаўца. Але я не бачу ў гэтым заганы. Ён як бы з іншага боку ўсё павярнуў і паказаў магчымасці і шляхі, куды можа развівацца мова.

Спадар Фёдар паказаў, што кожны чалавек, незалежна ад яго адукацыі, толькі па сваім духоўным паклінканні, можа зрабіць многае для развіцця мовы. І за гэта яму вялікі дзякуй, вялікая пашана і вялікі паклон.

Развітанне з Фёдарам Піскуновым адбылося а 14-й гадзіне ў нядзелю, 7 красавіка, у рытуальнай зале менскай клінічнай бальніцы № 9 (вул. Сямашкі, 8). Пахавалі Фёдара Піскунова на яго радзіме ў вёсцы Раманавічы Гомельскага раёна.



# Як далёка ад банка да мовы

БЕЛАРУСБАНК

Адкрытае акцыянернае таварыства "Ашчадны банк "Беларусбанк"
пр-т. Дзяржынскага, 18, 220089, г. Мінск
Тэл.: (017) 218 84 31, факс: (017) 226 47 50
Тэлекс: 252408 PION BY, 252608 SBBEL BY
http://www.belarusbank.by
e-mail: info@belarusbank.by

Открытое акционерное общество "Сберегательный банк "Беларусбанк"
пр-т Дзержинского, 18, 220089, г. Минск,
Тел.: (017) 218 84 31, факс: (017) 226 47 50
Телекс: 252408 PION BY, 252608 SBBEL BY
http://www.belarusbank.by
e-mail: info@belarusbank.by

Кручкоў С. М.
siarhiej@gmail.com

22.03.2013 795-13-02-13-К-1050

Аб інфакіёсках

Паважаны Сяргей Мікалаевіч!

Па сутнасці Вашага звароту ў ААТ "ААБ Беларусбанк" паведамляем наступнае.

Дзякуем Вам за ўвагу, праяўленую да ААТ "ААБ Беларусбанк", у прыватнасці, у арганізацыі работы з інфакіёскамі банка.

Магчымасць выкарыстання ў інфакіёсках дзвюх дзяржаўных моў разглядалася банкам. Аднак, паколькі большая частка даных, якія выводзяцца на экраны інфакіёскаў пры здзяйсненні плацяжоў, прадастаўляецца банку пастаўшчыкамі паслуг (атрымальнікамі плацяжу) і фарміруецца на рускай мове, банк не валодае паўнамоцтвамі па ажыццяўленні перакладу дадзенай інфармацыі на беларускую мову. У сувязі з гэтым рэалізацыя магчымасці правядзення плацяжоў на беларускай мове ў інфакіёсках можа быць здзейснена пры ўмове прадастаўлення банку інфармацыі пастаўшчыкамі паслуг (атрымальнікамі плацяжу) на беларускай мове.

Атрымаць кансультацыю па пытаннях, якія Вас цікавяць, можна ў Кантакт-цэнтры ААТ "ААБ Беларусбанк" па нумары 147.

Дырэктар Кантакт-цэнтра А.М. Корбут.

# Хлеб "Ракаўскі гасцінец"




Дзяржаўнае прадпрыемства "Хлебазавод №1 г. Мінска" асвоіла выпуск бохана хлеба на аснове пшанічнай мукі першага гатунку вагой 700 г. Энергетычная каштоўнасць 233 ккал/ 975 кДж. Тэрмін захоўвання 48 гадзін. Хлеб адпавядае СТБ 1009. Хлеб атрымаў назву "Ракаўскі гасцінец" (дарэчы і завод знаходзіцца на вуліцы Ракаўскай). Назва хлеба напамінае пра мястэчка Ракаў, размешчанае амаль пасярэдзіне паміж Менскам і Валожынам і вядомае з XV ст.

*Мікола Ліннік.*

# Можна беларусізаваць і небеларускае




Пяльмені - прадукт і слова заведама не беларускія, хаця папулярныя і шырокаўжывальныя. Нават, як напісаць гэтае слова, трэба падумаць. У навагрудскім ААТ "ПравітБел" падумалі і напісалі ў адпаведнасці з новымі правіламі арфаграфіі, хаця ўсе слоўнікі, у тым ліку і акадэмічны, падаюць гэтае слова як "пельмені", ігнаруючы правіла "якання" ў першым складзе перад націскам. Відавочна, і тут тая сітуацыя, што народ ведае сваю мову лепш за акадэмікаў і, як чуе, так і піша. І навошта тая акадэмія, калі на любым заводзе ў любым райцэнтры мову ведаюць лепш.

***Наш кар.***

